ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 52 (1806) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 30 СНЕЖНЯ 1990 г. ЦАНА 600 зл.



**Кленіцкая Узнясенская царква. Здымак зроблены 29 лістапада 1937 года.**

## ЦАРКВА ў КЛЕНІКАХ

Узвядзенне першай царквы патанае найчасцей у змроках гісторыі, так што немагчыма назваць хаця б прыблізную дату яе ўзнікнення.

Усходнеславянскае асадніцтва над Нарвай датуецца палавінай VI стагоддзя нашай эры і значнай актывізацыяй у X стагоддзі, калі пазнейшае Падляшша ўваходзіла ў састаў Вялікага княства Літоўскага.

Хрысціянства было афіцыйна ўведзена ў Кіеўскай Русі ў 988 г., але на тэрыторыі над Нарвай, якую складалі вялікія лясныя комплексы і былі з цягам часу асвоены чалавекам, хрысціянская вера дайшла ў XIII стагоддзі. Легенда гаворыць, што тадышнія манахі з Кіева-Пячэрскай лаўры, уцякаючы перад мангола-татарскім шэсцем, знайшлі ў наднарвянскіх лясах выгаднае месца для сваіх келляў. Некаторыя даследчыкі назву вёскі Кленікі выводзяць ад гэтага слова.

(Працяг на стар. 4)






**Новазбудаваная царква ў Кленіках.**

## ДА РОДНЫХ

Браты і сёстры — беларусы!

Уваходзім у новы 1991 год. І няма што замоўчваць тое, што на яго парозе маем болей сумненняў, чым надзеяў. На працягу мінулага ўступаючага года рассыпаліся ў попел унутрыпольскія, і міжнародныя палітычныя і мілітарныя структуры. Тая частка свету, у якой жывем, выразна аднавілася. І ставім перад сабой пытанне: ці палепшала? Бываючы ў Савецкім Саюзе, які знаходзіцца на скраю гібелі, даводзілася чуць мне моцна разрозненыя, разбітыя і супрацьстаўныя думкі: адны цешацца з новых магчымасцей і свабоды. Заяўляюць яны: цяпер зможам многа, а, можа, і ўсё. А другія сцвярджаюць: канец з надзеямі на лепшае, якая ж гэта свабода, у якой не хапае хлеба, і ў якой забіваюць людзей... Як гэта не парадаксальна, але адны і другія маюць частковую рацыю. Калі хтосьці хоча мець поўную рацыю, не павінен далучацца да гэтых супрацьстаўных спосабаў мыслення, павінен шукаць праўды пасярэдзіне. Сённяшняя карціна беларускага матэрыяльнага жыцця плачэўная, з сімптомамі поўнай бесперспектыўнасці. Затое карціна беларускага духоўнага жыцця мае ў сабе элементы надзеі. На працягу пяцідзесяці гадоў Беларусь не была сонцам, якое мае сваё ўласнае святло і праменнасць. Была яна толькі месяцам, які адлюстроўвае чужое святло. Гаворачы дакладней, было гэта святло Расіі. Сёння ўзніклі варункі да таго, каб наш народ жыў самастойным жыццём і каб мы, беларусы з Польшчы ці іншых краін, паехаўшы ў Беларусь, знаходзілі там інспірацыю, узор і прыклад.

Калі паляк з Беларусі прыязджае ў Варшаву ці Кракаў, дык можам яго назваць падарожным, які ў час спёкі ці смагі дапаў да халоднай ажыўляючай крыніцы. Мы, беларусы з шырокага свету, трапіўшы ў БССР, можам атоесаміць сябе з падарожнымі, якія ў час смагі і спёкі дайшлі да сухога рэчышча крыніцы. Бо што ж гэта за радасць аб'ехаць усе беларускія гарады і не пачуць беларускага слова?! Веру, што ў выніку нацыянальнага адраджэння беларускія гарады і вёскі ўквецяць родная беларуская, дарагая на-

(Працяг на стар. 3)

НА мяжы

— 19 —

# АД ПАЧУЦЦЯ СОРАМУ ДА ПАЧУЦЦЯ ГОНАРУ

Хачу сказаць некалькі горкіх слоў аб агентаманіі. Памятаю добра старыя сталінскія гады. Божа мой, колькі было праяваў так званай палітычнай чуйнасці. З вершаў і апавяданняў, з публіцыстыкі, з плакатаў і фільмаў накідваліся на нас імперыялістычныя шпіёны. Пагражалі нашым гарадам, сёлам, фабрыкам, сем'ям і кожнаму з нас асабіста. Зрэшты, і пасля смерці айца народаў створаны ім міф жыў і квітнеў.

Не забуду, як аднойчы, гадоў, мабыць, пятнаццаць таму назад, прыехаў у Польшчу беларус з Амерыкі Сяргей Карніловіч. Спаткаўся я з ім і, здаецца, мы адзін другому спадабаліся. Было лета і Беларускае таварыства арганізоўвала фэстыны. Вось Сяргей і паехаў на адзін з такіх фэстынаў на Беласточчыне. Ужо ў часе яго знаходжання на Беласточчыне заўважылі мы нешта няладнае. Выразна адчувалася, што нехта за Сяргеем сочыць. Усё канчаткова выяснілася, калі Сяргей адлятаў у Амерыку. У аэрапорце прадстаўнікі органаў пачалі „апрацоўваць“ яго вельмі грунтоўна. Распранулі, загадалі нават зняць шкарпэткі. Пераглядзелі ўсе паперкі і нататкі. У канцы выкруцілі з апарата плёнку і канфіскавалі яе. Мабыць, прыйшлі да вываду, што здымкі танцуючай „Лявоніхі“ і спяваючых вясковых калектываў гэта матэрыял, пры дапамозе якога амерыканскі імперыялізм узарве краіны народнай дэмакратыі. Мяне асабіста пасля гэтага візіта ніхто не кранаў. Аднак, праз нейкі час паклікала мяне да сябе старшыня Галоўнага праўлення БГКТ Лідзія Бялецкая. Вельмі шчыльна зачыніла дзверы і з таямнічай мінай заявіла, што хоча са мной пагаварыць. Калі хто памятае Лідзію Бялецкую, дык ведае, што яе гутарка складалася ў дзевяноста працэнтах з рускіх слоў і ў дзесяці з нібы-беларускіх. Размовы, зрэшты, не было, быў маналог. Вось яго прыблізны змест:

„Товарішч Баршчевскі, дашлі да нас слухі, што вы кантактіруетеся, ну, знаете, с этімі, ну з запада. Вы, канешне, знаете, што воны все звязаны, ну, самі знаете, з амерыканскім вывядом. Еслі бы того не было, так воны бы к нам увогуле не ехалі. Ну, самі знаете, як ім інтерэсно всё о нас знать. Воны хотелі б нас ізучіть, знаете, на память, каб, еслі будет война, не іті вслепую. Самі знаете, парадачны чалавек к нам не поедет, а едут те, што продалісь імперыялістам. І поэтому, знаете, нам надо быть бдітельнымі. Ну, самі знаете, вы былі троху неосторожны. Я вас толькі хочу, ну, знаете, учуліть, каб не ўлезті ў якую гразь. Воны выкарыстают, поедут, а нам трэба тут жіть з клеймом. Ну, самі знаете“.

Я сядзеў з невясёлымі думкамі, бо ведаў, што Бялецкая гаворыць не ад сябе, а з інспірацыі кагосьці іншага. У сувязі з тым, што яна нарэшце замоўкла, я сказаў, што тое, аб чым я гаварыў з Карніловічам, або тое, што ён у нас бачыў, у ніякім выпадку не можа быць патрэбным амерыканскай разведцы.

— А вот вы ашыбаетеся, — спыніла мяне Бялецкая. — Вы даже не представляете, какіе мелочі для іх тут могут быть важны, очень важны. І поэтому предупреждаю, будьте бдітельны“.

Прызнаюся, што выйшаў я ад старшыні Бялецкай моцна растрэсены нервова. Аднак, перадумаўшы ўсё, не спыніў кантактаў з Карніловічам. Пісаў яму лісты, прымаў яго яшчэ не раз у сябе. А ў гадах 1981 і 1987 ездзіў да яго. Вельмі высока цаню і цаню дружбу з гэтым добрым і разумным чалавекам.

Здавалася мне, што людзі ўрэшце паразумнелі і ніколі агентаманія болей не адж ыве. Аднак памыліўся. Аказваецца, што на гэты раз здурнелі не абаронцы сацыялізму, а яго ворагі. У апошнім часе ўсё болей прыязджае да нас людзей з Беларусі, людзей, звязаных з працэсамі беларускага адраджэння. Смяшыць мяне, калі яны, сеўшы за сталом у БГКТ, па суседстве там, дзе сядзела калісьці Лідзія Бялецкая, пачынаюць гаварыць аб агентах КГБ у „Радзіме“ і ў іншых урадавых арганізацыях. Стараюся спыніць іх жахлівыя інфармацыі. Тлумачу ім, што агентаў КГБ павінна быць найболей у арганізацыях не ўрадавых, а апазіцыйных. Апрача гэтага, выясняю, што агентаў Беларускае таварыства не баіцца. Не баіцца таму, што вядзе адкрытую дэмакратычную дзейнасць. Не мае ніякіх тайнаў і нават сапраўдным агентам замежных ці нашых разведак можа паказаць і расказаць усё, што робіцца ў БГКТ.

І таму заклікаю не баяцца агентаў. Жыць нармальным жыццём і не дазволіць, каб ізноў агарнула нас постсталінская атмасфера агентаманіі, мэтай якой было, ёсць і будзе застрашванне іншых і сябе. Не лезьма, сябры, дабравольна ў ярмо жаху, якое давядзе нас да духоўнага зняволення і паралічу!

**Алесь Барскі**

## НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў 1990/91 г.

(статыстычная даведка)

**Паводле афіцыйнай статыстыкі, агульная колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых і сярэдніх школах Беласточчыны, складае ў бягучым 1990/91 г. 3677 у параўнанні з 3928 у папярэднім школьным годзе.**

**Значную стабільнасць выказвае становішча ў ліцэях з беларускай мовай навучання. У 1990/91 г. колькасць іх навучэнцаў складае (у дужках даныя за папярэдні год) 644 (663), у тым ліку ў Бельскім ліцэі 369 (392) і ў Гайнаўскім — 275 (271).**

**Трывогу выклікае становішча ў пачатковых школах. У 1989/90 г. спынілася навучанне беларускай мовы ў пяці школах (Новая Воля, Шымкі, Ялоўка, Аўгустова і Чаромха-вёска), пасля чаго з пачаткам 1990/91 г. было адноўлена яе навучанне ў трох школах (Аўгустова, Чаромха-вёска і Паўлы). Такім чынам гэты прадмет сёння навучаецца ў 45 пачатковых школах і 3 філіяльных пунктах.**

**Агульная колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову ў пачатковых школах, складае ў 1990/91 г. 3033, што на 232 вучняў менш, чым у папярэднім годзе (3265). Становішча ў паасобных школах паказана ў табліцы, у якой у рубрыцы „А“ паказана абсалютная колькасць вучняў, якія вывучаюць беларускую мову, і ў рубрыцы „Б“ — іх удзел (у працэнтах) у агульнай колькасці вучняў данай школы без першага класа.**

**У абсалютных велічынях найбольш зменшылася колькасць навучэнцаў у Гайнаўскай школе № 2 (-78), у Нурцы (-29), Крыўцы (-20), Нарве (-18), Старым Ляўкове (-18), Чыжах (-17), Караўцы (-14) і Кляшчэлях (-14), а іх найбольшы рост — у Бельскай школе № 3 (+61) і ў Гайнаўскай № 3 (+16).**

**Значную цікавасць прадстаўляюць працэнтныя даныя (рубрыка „Б“), паколькі яны незалежныя ад дэмаграфічных хістанняў. У гэтых адносінах надалей выступалі разнастайныя тэндэнцыі, абумоўленыя дзеяннем прынцыпу добраахвотнасці навучання беларускай мовы. Найбольш пагоршыўся стан яе навучання ў Крыўцы (амаль напалову), Нурцы, Малешах, Дубяжыне, Старым Ляўкове, Клюковічах, Саках, Красным Сяле, Махнатым і ў Гайнаўскай школе № 2, а палепшыўся ў Залуках, Грабаўцы, Малінніках і Гайнаўскай школе № 3.**

**НАВУЧАННЕ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ Ў ПАЧАТКОВЫХ ШКОЛАХ**

| | 1989/90 | | 1990/91 | |
|---|---|---|---|---|
| | А | Б | А | Б |
| Бельск № 3 | 804 | 99,9 | 865 | 100,0 |
| Ласінка | 55 | 100,0 | 63 | 100,0 |
| Пашкоўшчына | 52 | 100,0 | 50 | 100,0 |
| Пасынкі | 54 | 100,0 | 41 | 100,0 |
| Стары Корнін | 36 | 97,3 | 46 | 97,9 |
| Клейнікі | 120 | 98,4 | 111 | 97,4 |
| Новы Корнін | 39 | 95,1 | 36 | 97,3 |
| Дубічы-Царкоўныя | 100 | 96,1 | 96 | 96,0 |
| Курашава | 46 | 100,0 | 41 | 95,3 |
| Маліннікі | 80 | 87,9 | 84 | 93,3 |
| Грабавец | 38 | 82,6 | 39 | 90,7 |
| Орля | 212 | 89,1 | 204 | 89,9 |
| Дубяжын | 43 | 100,0 | 40 | 87,0 |
| Махнатае | 69 | 93,2 | 59 | 86,8 |
| Ляшукі | 40 | 85,1 | 33 | 84,6 |
| Арэшкава | 77 | 88,5 | 76 | 84,4 |
| Чыжы | 167 | 88.8 | 150 | 84,3 |
| Семяноўка | 63 | 79,7 | 54 | 81,8 |
| Дубіны | 124 | 84,3 | 125 | 81,2 |
| Дашы | 43 | 79,6 | 39 | 76,5 |
| Новае Беразова | 54 | 76,1 | 56 | 74,7 |
| Палічная | 40 | 70.2 | 38 | 70,4 |
| Храбалы | 79 | 67,5 | 77 | 65,8 |
| Трасцянка | 43 | 63,2 | 41 | 63,1 |
| Сакі | 52 | 69,3 | 39 | 60,9 |
| Залукі | 19 | 40,4 | 26 | 56,5 |
| Нурэц | 65 | 80,2 | 36 | 55,4 |
| Крывец | 45 | 100,0 | 25 | 53,2 |
| Малешы | 20 | 71,4 | 16 | 51,6 |
| Рагачы | 22 | 44,0 | 21 | 47,7 |
| Краснае Сяло | 31 | 50,0 | 25 | 41,7 |
| Рыбалы | 37 | 38,1 | 34 | 37,4 |
| Старое Ляўкова | 56 | 37,6 | 38 | 26,8 |
| Гайнаўка № 3 | 27 | 14,5 | 43 | 22,5 |
| Вараўка | 58 | 22,9 | 44 | 17,0 |
| Кляшчэлі | 48 | 23.0 | 34 | 17,0 |
| Клюковічы | 17 | 25,6 | 8 | 15,7 |
| Нарва | 63 | 20,5 | 45 | 14,4 |
| Зубры | 7 | 16,7 | 5 | 11,9 |
| Аўгустова | — | 0,0 | 10 | 8,5 |
| Мілейчыцы | 8 | 3,2 | 10 | 4,2 |
| Гайнаўка № 2 | 123 | 9,5 | 45 | 3,2 |
| Чаромха-пасёлак | 26 | 5,6 | 15 | 3,2 |
| Гарадок | 20 | 3,5 | 12 | 2,2 |
| Гайнаўка № 1 | 31 | 2,8 | 20 | 1,8 |
| **ФІЛІЯЛЬНЫЯ ПУНКТЫ** | | | | |
| Тыневічы Вялікія | 12 | 100,0 | 8 | 100,0 |
| Чаромха-вёска | — | 0,0 | 6 | 85,7 |
| Паўлы | — | 0,0 | 4 | 33,3 |
| Разам | 3265 | | 3033 | |

Увага: папярэдняя статыстычная даведка — гл. „Ніва“, 25 XII 1988 г.

(тур)

## Грыгарук не зразумеў

Міхась Грыгарук, друкуючы ў „Ніве“ ад 9 снежня свае выказванне „Новы палітрук“, паказаў гэтым самым, што не зразумеў ён маёй публікацыі „Nowe państwo: Białoruś“ у газеце „Życie Warszawy“ ад 5 лістапада. Я коратка перадаў у ёй толькі змест беларускага сімпозіума „Белавежа '90“, як і трэба ў сумленнай журналісцкай інфармацыі (не перайначваючы па-свойму таго, аб чым напраўду там дыскутавалі). Не маючы часу і ахвоты асвячаць Міхася Грыгарука ў гістарычнай праўдзе наконт Беларусі, даволі мне будзе звярнуць яго ўвагу на тое, што ён, аднак, не ў той бок тут выскаліўся.

Паўтараю: я аб'ектыўна паведаміў чытачоў пра тэматыку тых, нашумеўшых у палітычнай Польшчы, дэбатаў у Белавежы, а не пра свае думкі як Сакрата Яновіча, спадар Грыгарук. Так што плюйце не на мяне!

**Сакрат Яновіч**

P.S. Спачуваю рэдакцыі „Нівы“, якая, відаць, пачуваецца прымушанай змяшчаць на старонках часопіса так дрымуча цямнотныя глупствы.

**С. Я.**

**Ад рэдакцыі:** Дзякуем С. Я. за спачуванні, але яны тут лішнія, бо і прымусу ніякага не было. Мы друкуем розныя выказванні, лічачы, што за ўласныя глупствы кожны адказвае сам. Манаполіі на мудрасць у нас няма.

# ДА РОДНЫХ

(Працяг са стар. 1)

шым сэрцам мова. Усё гэта, маем надзею, будзе там — на Беларусі. А што ў нас? Ці ж мы таксама не паддаліся асіміляцыйным працэсам? Ці мала сярод нас адшчапенцаў і рэнегатаў, якія ніяк не могуць зразумець, што лаяльнасць у адносінах да польскай дзяржавы не мусіць абазначаць здрады беларускай свядомасці і мовы?! Ці ж Польшча патрабуе беларусаў заілганых, крывадушлівых, здрадніцкіх, бястварых, ніякіх?! Будзем верыць, што тыя перамены, якія наступяць у нашай краіне, будуць спрыяць вырастанню людзей з адкрытымі сэрцамі і шчырымі душамі. З агідай гляджу, як некаторыя з нас забегалі, замітусіліся, пераскочылі з аднаго лагера ў другі, бо прыйшлі да вываду, што гэты другі будзе пераможны. І прайгралі. Паглядзім, куды пераскочаць заўтра. Гэта яны заўзята атакуюць БГКТ, бо лічаць на спажыву на пажарышчы нашай арганізацыі. Аднак будзем старацца не дапусціць да пажару.

Рыхтуемся да статутовых і праграмных змен у жыцці Беларускага таварыства. Намерваемся склікаць надзвычайны з'езд БГКТ, які павінен выразна акрэсліць пазапартыйны характар нашай арганізацыі. Не палітыка, а толькі культурна-нацыянальная дзейнасць павінна акрэсліць наша аблічча. Трэба шукаць нам супрацоўніцтва не з палітычнымі партыямі, а толькі з тымі ўсімі ўстановамі і арганізацыямі, якія дзейнічаюць у карысць беларускай духоўнасці. Бачу пільную патрэбу пагадненняў з Праваслаўнай царквой у Польшчы, з Беларускім літаратурным аб'яднаннем, з камітэтам пабудовы Беларускага музея, са структурамі, якія імкнуцца дзейнічаць у карысць беларускай асветы. Мусім шанаваць свае сувязі з беларускай эміграцыяй і з культуратворчымі арганізацыямі ў Беларусі і, зразумела, з усімі тымі польскімі ўстановамі, якія адносяцца да нас прыхільна.

Дарагія браты і сёстры, беларусы, нішто не станецца само сабой! У гісторыі чалавецтва як дрэннае, так і добрае, узнікла з чалавечай злой або добрай волі. Заклікаем вас да дзейнасці ў карысць добрага і высакароднага. Уступайце ў рады Беларускага таварыства, пасылайце дзяцей на беларускую мову, гарніцеся ў гурткі мастацкай самадзейнасці, успамагайце Беларускі музей, які з'яўляецца найбольш грандыёзным мерапрыемствам у беларускім пасляваенным жыцці!

Памятайма аб тым, што мы не сеем зерняў нянавісці да ўсіх народаў і перад усім да польскага народа, з якім у выніку гістарычных прыгавораў давялося нам жыць у адной дзяржаве. Трактуймася як браты з узаемнай пашанай да мовы, звычаяў, свядомасці!

Наступаючы год не будзе лёгкім, і толькі беларуская супольнасць, беларуская еднасць можа аблегчыць жыццё ў нашым беларускім доме.

**Алесь Барскі**

## АБ БЕЛАРУСКІМ ДЗІЦЯЧЫМ МАСТАЦКІМ РУХУ

Агульнапольскі цэнтр мастацтва для дзяцей і моладзі ў Познані звярнуўся да мяне з просьбай прадставіць на сесіі, прысвечанай дзіцячай творчасці нацыянальных меншасцяў, матэрыялы аб мастацкай дзейнасці беларускіх дзяцей, з думкай, каб потым, у лютым-сакавіку будучага года, запрасіць маладых беларускіх творцаў на біенале ў Познань. Арганізатары прасілі даслаць ім фотаздымкі, касеты відэо і іншыя візуальныя дапаможнікі з выступленняў нашых калектываў і іншай мастацкай творчасці дзяцей.

Кіруючыся ахвотай расказаць аб актыўнасці нашых здольных дзяцей, я згадзілася падаць інфармацыю аб гэтым у агульнапольскі двухмесячнік „Sztuka dla dziecka", які выходзіць у Познані, далучыўшы некалькі фатаграфій нашых калектываў і асобных дзяцей. Наконт іншых матэрыялаў, як касеты відэо ці працы мастакоў, маю надзею, што іх запрапануе познаньскаму асяродку Галоўнае праўленне нашага таварыства, а таксама кіраўнікі калектываў і настаўнікі нашых малых творцаў.

Паколькі дзіцячая творчасць беларускіх дзяцей не надта вядомая сярод дарослых чытачоў „Нівы" (на ўсіх конкурсах для дзяцей залы запоўнены, але сябрамі выступаючых), думаю, што і нашы чытачы знойдуць для сябе нешта новае ў гэтай маёй інфармацыі.






У сувязі са сваёй журналісцкай працай (30 гадоў я рэдагую дадатак „Нівы" для дзяцей — „Зорку") мне давялося доўгія гады спадарожнічаць беларускаму дзіцячаму мастацкаму руху на Беласточчыне. Ужо трыццаць гадоў назад ездзіла я ў маленькія вясковыя школкі на школьныя ўрачыстасці, часта будучы на дзіцячай ёлцы ледзь не галоўным госцем — прадстаўніком „вялікага свету". Там дзіцячая творчасць была адзінай з'явай культурнага жыцця.

У маёй прысутнасці, разам з існаваннем беларускага школьніцтва, развівалася і дзіцячая мастацкая творчасць і, як штуршкі да яе, шматлікія конкурсы, арганізаваныя Беларускім таварыствам: беларускай песні, дэкламатарства, тэатральнага мастацтва і іншыя. У далейшым гэтыя конкурсы сталі тым стымулам, які дадаваў дзецям ахвоту развучваць песні, ставіць пастаноўкі беларускіх п'ес (хоць польскіх выбар быў значна большы), завучваць на памяць творы беларускіх пісьменнікаў з Польшчы і Беларусі.

Дзіцячы мастацкі рух, асаблівa ў вясковых школах, існаваў заўсёды. Вынікаў ён з патрэбы

(Працяг на стар. 6)

# РЭХА

### (АБ АДНЫМ ПАРТРЭЦЕ ФРАНЦІШКА БАГУШЭВІЧА)

У пятым нумары часопіса „Мастацтва Беларусі" за сёлетні год была зроблена першая спроба прасачыць гісторыю ўвасаблення паэтавай постаці. Яго аблічча ў выяўленчым мастацтве, а больш дакладна — у мастацкім партрэце. Шмат у тым даследаванні гаварылася пра паэтаў партрэт, намаляваны Францішкавым сучаснікам і сябрам, вядомым мастаком Эльвірам Андрыёлі. Гэты партрэт доўга, аж да 1946 года, знаходзіўся ў Кушлянах. Затым ён кудысьці бясследна знік. У размовах пра лёс паэтавага партрэта было выказана меркаванне, што ён, магчыма, не загінуў, што весткі пра яго адкуль-небудзь ды вынырнуць. І вось як у ваду глядзелі. У Кушляны, з Польшчы, нечакана для ўсіх прыйшла ксеракопія гэтага партрэта. Ксеракопію прыслаў сын Багушэвічавага суседа Станіслава Альхімовіча Кароль. У трыццатых гадах ён жыў у Кушлянах, сфатаграфаваў гэты партрэт. Меў фотаапарат і сфатаграфаваў. А калі дачуўся, што ствараецца паэтаў музей, прыслаў апантаным музейшчыкам копію.

То цікава, што ж за выява на тым ксерапічным адбітку? Ці не ёсць гэта копія якога-небудзь Багушэвічавага здымка?

Разглядаем прысланую Альхімовічам ксеракопію — яна зараз у Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры.

Сама выява аблічча на копіі не вельмі выразная. Вядома, якую якасць дае ксерапічны адбітак з партрэтаў, фотаздымкаў. І ўсё ж агульныя абрысы паэтавага аблічча, яго ракурсы прагляндваюцца. Яны прыкладна такія, як і на здымку 90-ых гадоў. Намаляваны ў анфас. Шляхетны, высакародны. Задуменна пранікнёны пагляд вачэй. Партрэт авальны, у рамцы. Гэта вельмі важна. Гэта адзін з доказаў, што гаворка ідзе не пра копію з якойсьці паэтавай фатаграфіі, а з карціны, з маляванага партрэта. Рама, як гэта нядзіўна, на ксеракопіі адбілася вельмі выразна. Яна багетавая, даволі багатая, шматслойная, з пераходам ад простага да ўскладнёнага арнаментавання, з раслінным арнаментам, з пазалотай.

Ну, а дзе сам партрэт? Гэтага Кароль Альхімовіч таксама не ведае. З усім, што ведаў, што меў, падзяліўся. І за гэта яму дзякуй. Прысланая ім копія навяла музейшчыкаў на думку намаляваць паводле яе новы паэтаў партрэт. Гэты ганаровы заказ даручылі вельмі вопытнаму мастаку Міколу Кірэеву. І такі партрэт ім намаляваны. Ён вісіць у такой жа рамцы (рамку зрабіў рэстаўратар Міхась Юрэвіч), у тым жа пакоі, дзе і вісеў раней, побач з жончыным партрэтам, намаляваным таксама мастаком Міколам Кірэевым.

Так што ў жыцці нічога зусім бясследна не знікае, і ўсё знойдзе свой працяг. Галоўнае, каб толькі жыў народны дух!

**Уладзімір Содаль**

## АДГАЛОСКІ

### НАША НЕДАСКАНАЛАСЦЬ І НЕЗАЛЕЖНАЯ БЕЛАРУСЬ

Што ж, і так бывае: спадара Куптэля я пахваліў („Ніва", № 47), а на той жа самай палосцы ён зрэзаў мае погляды ў корань. Але я не гневаюся на яго: усе мы людзі недасканалыя на гэтай зямлі, і злосці злосцю не пераможаш. Ён назваў мяне сталіністам, а я мог бы назваць яго артадаксальным нацыяналістам, і так пайшло б... Далей нейкі „Пастаянны чытач" пачынае ад кампліментаў у мой адрас і канчае на знішчальнай крытыцы. Ён сцвярджае, быццам усе дабрадзействы, што мы займелі: дамы, машыны, трактары... гэта — дзякуючы народнай уладзе. А ці так гэта ў сапраўднасці? Мне здаецца, што цалкам інакш. Чаму мы нажылі сабе тое-сёе? А таму, што Гамулка ўвосень 1956 г. зрабіў круты паварот у сельскагаспадарчай палітыцы — у рукі гаспадароў вярнулася зямля. Кіраўніцтва мы мелі камуністычнае, але ў вёсцы панавала капіталістычная сістэма: таму нават пры „народнай уладзе" жылося нам някепска, а некаторыя і разбагацелі. Чаму ў іншых краінах сацыялістычнай садружнасці, дзе былі калгасы, людзі аж пішчэлі ад бяды на вёсцы? Хто адкажа? А з тымі трактарамі было па-рознаму, у тым ліку і з чырвонымі — савецкімі... Начальнікі гмінаў размяркоўвалі іх як хацелі і каму хацелі. У першую чаргу партыйным і гмінным прыхлебнікам. Я, напрыклад, трактара не маю...

Наконт вольнай і незалежнай Беларусі. Я прытрымліваюся канцэпцыі, у якой Беларусь, Літва і Польшча звязаныя паміж сабою дзяржаўнай уніяй. Бо мы самі наўрад ці патрапім кіраваць сваёй краінай: нас розныя „дабрадзеі" спаласкалі да самых касцей, і трэба пакаленняў, каб усё гэта паправіць. Калі Беларусь была наймацнейшай? Тады, калі называлася Вялікім княствам Літоўскім. Краіна гэтая мела цесныя суадносіны менавіта з Польшчай, палітычныя і эканамічныя, а не з Расіяй. І таму я думаю, што варожасць наша да палякаў не павінна мець месца.

Магчыма, тое, што я пішу, падобнае на сон і фантазію. Але ведаю таксама, што Беларусь, якой фактычна кіруе Масква, сама не мае шанцаў выбіцца на незалежнасць.

На заканчэнне хачу запытацца ў спадара С. Яновіча, калі гэта было такое, што ў маёй вёсцы на чалавека зверам паглядзелі за тое, што ён адазваўся па-беларуску („Ніва", 28.10.90)? Дзівата проста. Тут ён, шаноўны, у сваёй літаратурнай фантазіі загнуў задалёка. Такога выпадку аніяк у нас не магло быць. Ніхто ў нас не адрокся свае мовы: яна стаіць у нас на першым месцы, ва ўсіх установах таксама — у гміне, ГСе, на пошце... Усе ёю карыстаюцца. Я за гэта ручаюся гонарам беларуса.

**Мікалай Панфілюк**

## СВОЙСКІЯ МАЛЮНКІ



*Мост на рэчцы каля Райграда. Малюнак У. Петрука.*

(Працяг са стар. 1)

# Царква ў Кленіках

Знаўцы тапанамастыкі сцвярджаюць, што старабеларускае слова „клейно" (польскае klejma) абазначае апазнавальны бортнічы знак на дрэвах з барцямі, і што гэта дало назву вёсцы.

Адно вядома, што ў Нараўскай пушчы быў манастыр Узнясення Гасподняга. Таго ж патрона атрымала царква ў Кленіках. Свята Узнясення Гасподняга ўрачыста адзначаецца па сёння ў Кленіках і недалёкай Нарве, а ўспаміны аб манастыры сустракаюцца ў пісьмовых крыніцах да I паловы XVIII ст. У тых мясцовасцях, апрача прыхадскога свята — Узнясення Гасподняга, святкуюць тут дзень св. Антонія Пячэрскага, які жыў у XI ст., і ў Кленіках — дзень св. Параскевы Сербскай, якая таксама жыла ў XI стагоддзі. Яе цудоўная ікона ў 1915 г. была вывезена ў глыб Расіі.

Усё паказвае на тое, што святло ўсходняй хрысціянскай веры даволі рана пранікла на гэтую тэрыторыю.

Першыя пісьмовыя весткі пра Кленікі і царкву з'яўляюцца ў XVI ст. Заметка пра „зямлю Кленіковічаў" і „палі Кленіцкія" паходзіць з 1540 г., а ў люстрацыі Нарвы з 1560 г. запісана, што „Кленіцкі поп" мае нерухомую маёмасць у гэтым мястэчку пры Бельскай вуліцы. У час валочнай памеры царкве надзелена дзве валокі зямлі ў трох кусках. Згодна з фондавым запісам караля Зыгмунта Аўгуста ад 16 сакавіка 1568 г. была зменена назва вёскі на Зыгмунтова (у гонар караля), але надоўга яна не замацавалася.

Цяжка сёння ўстанавіць, колькі цэркваў было пабудавана ў Кленіках на працягу стагоддзяў. Перадапошняя, драўляная царква была пасвячана 4 верасня 1883 г. Знаходзілася яна ў цэнтральнай частцы вёскі, якую называлі Клебаншчына, на месцы ранейшых храмаў. Датрывала яна да 6 красавіка 1973 г. З яе пажару пачалася серыя пажараў сакральных аб'ектаў на Беласточчыне.

Адразу пасля пажару прыхаджане вырашылі будаваць новую царкву, мураваную. У дзень Узнясення Гасподняга, 23 мая 1974 г. быў пасвячаны краевугольны камень. Праект царквы зрабіў Адам Сталёны-Дабжанскі, а папоўніла яго і работамі кіравала інжынер-архітэктар Ірына Малафеева. Асноўныя працы пры пабудове царквы працягваліся да канца сямідзесятых гадоў. Першая святая літургія была адслужана тагачасным настаяцелем а. Янам Юзвуком 27 верасня 1980 г. У наступным годзе настаяцелем прыхода быў назначаны а. Аляксандр Высоцкі, які паспяхова працягвае работы пры заканчэнні царквы. У той жа год пачаліся працы над іканастасам і трывалі яны два гады. Яго асноўную канструкцыю паводле праекта А. Сталёны-Дабжанскага выканаў разбяр, цыган па нацыянальнасці, Ян Плонскі з Фаляніцы пад Варшавай. Іконы напісаў грэцкі мастак Сатырыс Пантапулас, які пастаянна жыве ў Кракаве. У 1984—1986 г. іканастас быў пазалочаны Юрыем Шчыглам. Вокны ў алтарнай

## БАЦЬКОЎСКАЕ СЭРЦА

Жылі разам тры гады. Наймалі пакой на Выгодзе, потым яго маці прыслала з Канады шмат долараў, і Валянцін купіў сабе трохпакаёвую кватэру ў новым квартале горада. Купілі новую мэблю, відэа... Ганна любіла кветкі — і іх дом квітнеў, як агарод. Усе пыталіся, калі будзе іх шлюб, але Валянцін на гэту тэму нічога не гаварыў, а Ганна казала, што каханне ў сужонстве можа хутка завянуць, і лепш сабе даварацы без ніякіх забавязванняў.

Ганна працавала прадаўшчыцай у краме, пасля гандлёвага тэхнікума, а Валік быў будаўніком. Зараблялі шмат, Валік не піў многа і не курыў. Добры быў хлопец. Маці Ганны, адзінокая ўдава, адказвала на пытанні аднавяскоўцам, што яе дачка пана Бога ўхапіла пад ногі, а замуж спяшацца няма чаго, бо хлопец такі, што кожная дзяўчына захацела б яго „адбіць" Ганне, што сталы ўжо ён, разумны, хаця яму яшчэ толькі 23 гады. Ганне, праўда, было ўжо столькі ж, але ўжо не тыя часы, калі дзеўку, якой за 20, лічылі старой, якую ніхто не захацеў узяць і ўжо не возьме. Ганна з Валікам часта прыязджалі на вёску, дапамагалі Маньцы ў гаспадарцы. Маці ўжо не пыталася, чаму не ідуць пад вянец — вядома было, што яны шчаслівыя разам, што жывуць добра і згодна, і што раней ці пазней на вяселлі загуляе цэлая вёска, бо хоць Манька — бедная ўдава, але ж Ганна яе адзіная дачка, і трэба будзе паказаціа.

Аднойчы Валік, калі Ганна ўвечары, пры свечках (Ганна часта рыхтавала неспадзяванасвяточныя вячэры), сказала, што ў іх будзе дзіця, паглядзеў ёй проста ў вочы і адказаў:

— Я ведаю, што яно — не маё. Я быў асцярожны, і ведаю, што гэта немагчыма. Рабі, што хочаш, але я не прызнаюся да твайго байструка!

Сказаў гэта і хутка выйшаў з хаты. Ноччу не вярнуўся. Ганна спачатку доўга сядзела, як астаўбянелая, потым, выпіўшы шклянку віна, пачала пакавацца. Узяла толькі адзін чамадан, хаця тут была маёмасць усяго яе жыцця. З посуду, які так любіла купляць і камплектаваць, забрала толькі адзін кубачак з ружай, які застаўся ад сервіза (пабіўся цэлы, калі пераязджалі з пакойчыка на Выгодзе на новую кватэру).

Ганна не хацела ехаць да маці — нашто маюць людзі ведаць, што яе дачцэ не ўдалося жыццё? Хто яна цяпер — без дому, без каханага, з дзіцём без бацькі? Рашыла паехаць да цёці Зосі, у Шчэцін. Цётка жыла адна — памёр яе муж, а сын быў маракам. Там Ганна і жыла, пакуль Агнешцы не споўнілася 3 гадзікі і скончыўся выхаваўчы водпуск. Потым вярнулася ў Беласток. Працавала ў сваёй краме, наняла кватэру ў адзінокага ча-

# Усё маё

У вёсцы Д. жыў бедны хлопец. Была ў яго толькі хатка і маленькі агародчык, у якім расла крапіва. Хто ж за такога пойдзе?

Знайшоўся сват, які самога чорта ажаніў бы. Узяў аднойчы Ігната і павёз сваім возам у сваты да Касі, дачкі малазямельнага гаспадара ў іншым прыходзе. Так там Ігната расхваліў, што бацькі дзяўчыны адразу згадзіліся, хаця хлопец не вельмі спадабаўся Касі.

Паехалі ў аглядзіны. На стале было як трэба. Хлопец крыху зарабіў у багатых гаспадароў, і тыя далі трохі мяса, хлеба, сыру і масла. З'елі, выпілі, пагутарылі наконт вяселля, а пасля бацька дзяўчыны кажа:

— Пакажы мне, Ігнатка, што ў цябе ёсць?

Ігнат павёў гасцей на двор, увайшоў у агародчык і махнуў рукою: „Гэта маё ўсё!"

Ігнатава хата стаяла ў канцы вёскі. За плотам былі гаспадарскія палоскі жыта, пшаніцы і аўса. Госці падумалі, што гэта ўсё — яго.

Сілай аддалі Касю замуж. Прыйшло жніво.

— Ты чаму не рыхтуешся да жніва? — здзівілася жонка.

— А ў мяне толькі крапіва расце!

Кася з плачам пабегла да бацькоў. Бацькі раскрычаліся на зяця-нягодніка.

— Чаго ж вы крычыце? — здзівіўся Ігнат. — Я ж вам паказаў сваю крапіву?!

Што ж было рабіць! Разводаў тады не давалі. Жыць неяк трэба было. Хадзілі абое, Ігнат ды Кася, цэлае жыццё на заработкі да суседзяў-багацеяў.

**Аўрора**

частцы ўпрыгожаны вітражамі паводле праекта А. Сталёны-Дабжанскага, а паліхромію ў алтары выканаў балгарскі мастак з Сафіі Асэн Гіцоў. Алтар з палявога каменя (творца Сяргей Мартынюк з Нарвы) праектаваў Янка Салавянюк. У юбілейным годзе хрышчэння Русі (988—1988), 27 кастрычніка была ўстаноўлена памятная табліца аўтарства Л. Вішанкі і В. Шума з Сямяціч.

Перыяд пабудовы царквы патрабаваў ад прыхаджан і настаяцеляў аграмадных намаганняў: маральных, фізічных і фінансавых. За 15 гадоў (1973—1988) мясцовыя прыхаджане сабралі на пабудову царквы 10.112.300 зл., закалядавалі 2.716.176 зл., атрымалі з іншых прыходаў 3.524.025 зл., а ад сусайчыннікаў прыйшло 756 долараў, 500 франкаў і 200 марак. Атрымалі яшчэ 1.272.820 зл. страхоўкі.

Для пабудовы царквы спатрэбілася 146 тон жалеза, 234 тоны цэменту, 3 вагоны вапны, 185 кубаметраў драўніны і 8 тон бляхі.

Новая царква збудаваная на плане крыжа. Яна трохнефная, з двума радамі калонаў, якія раздзяляюць паасобныя нефы. Увесь будынак завяршае купал у цэнтры і званіца, канструкцыйна звязаныя з усёй будоўляй. Унутры, на гары каля хору знаходзіцца катахетычны зал з асобным уваходам. Рызніца размешчана побач з алтаром, а бакавы ўваход праз панамарку стварае магчымасць увайсці ў алтарную частку і на правы клірос.

І хаця можна мець засцярогі да стылю аб'екта, да формы купала, унутранай акустыкі, то царква ў Кленіках добра будзе служыць вернікам для задавальнення іх духоўных патрэб. Кленіцкі храм — важная з'ява не толькі ў гісторыі мясцовага прыхода, але і ўсяго праваслаўя на Беласточчыне.

**Р. С.**

## НАВАГОДНІ БАЛЬ У ВАРШАВЕ

Варшаўскі аддзел БГКТ арганізуе навагодні баль у Палацы культуры і навукі (13—14 студзеня 1991 г.). Інфармацыя: W-wa, ul. Starościńska 1b, tel. 483-061.



**ЗУБРЫ ВЫГЛЯДАЮЦЬ ТУРЫСТАЎ**

**Хто з турыстаў не хоча пабачыць звяроў, якія жывуць у Белавежскай пушчы? Хочуць, вядома, усе, але знаходзячыся тут усяго некалькі гадзін, цяжка было б здзейсніць гэткае жаданне, каб не паказны запаведнік. Ён размяшчаецца непадалёку ад шашы з Гайнаўкі ў Белавежу, 2—2,5 км не даязджаючы да Белавежы.**

**Запаведнік рамантаваўся і мадэрнізаваўся каля 15 гадоў. Перасяленне зуброў і тарпанападобных конікаў з часовага запаведніка ў новыя памяшканні адбылося ў канцы 1987 г. Неўзабаве ў паасобных агароджах паявіліся таксама алені, сарны, лосі (выгадаваныя доктар Сімонай Косак, вядомым даследчыкам жыцця пушчанскай звярыны), дзікі, зуброні. Будуецца і вальера для глухароў. Цэлы паказны запаведнік ахоплівае паверхню 30 га. Агароджы зручныя для звярыны, але наведвальнікі наракаюць, што праз гэтую выгоду яны не могуць добра агледзець прадстаўнікоў пушчанскай фауны. Вось табе і праблема! Найлепш было б, каб наведвальнікі бралі з сабой біноклі.**

**Чатырохногіх жыхароў запаведніка даглядаюць на змену Міхал Байко, Аляксей Байко, Кірыл Лісіцкі і Васіль Сельвяструк. Абслугоўваннем наведвальнікаў займаюцца Юрка Семянюк і Міраслаў Андрасюк. Шэфам усіх да нядаўна быў ляснічы Аляксандр Вашкевіч, зараз замяніў яго ляснічы Міхась Дулько, дарэчы — член ГП БГКТ. А наогул усе працаўнікі — беларусы. Запаведнік падлягае Белавежскаму нацыянальнаму парку. Наведваць яго можна штодзённа, апрача панядзелкаў і пасвяточных дзён у гадз. 9—16.**

**Тэкст і фота Пятра Байко**



лавека ў гадах. Дзядок быў старым кавалерам, прывыклым да самоты, скупым і насцярожаным да людзей. У жыцці Вінцука Ганна і Агнешка ўнеслі новы подых жыцця. У яго была цяпер свая дачка і праўдзівая ўнучка — іх клопаты былі цяпер яго жыццём, іх радасці — яго шчасцем. Ганна працавала, дзедка выпраўляў „унучку" ў прадшколле, варыў абед, прыводзіў дзяўчынку дадому... Калі выходзіла на панадворак перад блёкам — тэпаў за ёю з кульбакай, каб яго ўнучачку ніхто не пакрыўдзіў, каб гуляла толькі з добрымі, паслухмянымі, чыстымі дзецьмі парадачных бацькоў... Запісаў на Ганну ўсю сваю маёмасць, кватэру, калекцыі...

Агнешка пайшла ў школу. Аднойчы, калі выходзіла са школьных веснічкаў, да яе падыйшоў высокі, чорнавалосы, стройны пан, вельмі прыгожа апрануты.

— Агніся, я — твой тата.

— У мяне няма таткі, ёсць толькі мама, дзедка і бабулька! — адказала дзяўчынка, з захапленнем гледзячы на чалавека, твар якога быў бы вельмі падобны на яе, калі б не гэтыя вусы.

— У цябе ёсць і татка. На, калі ласка, вазьмі, — падаў ёй цэлафанавы, каляровы мяшочак з чужаземнымі надпісамі. — Гэта табе падарунак ад мяне.

— Дзякуй, але я не ведаю, што на гэта скажа мая мама, — насцярожаная дзяўчынка ўзяла пакет.

— Нічога не скажа. Напэўна ўцешыцца. Скажы маме, што заўтра буду тут яе чакаць.

— Не хачу яго цяпер ведаць! Як ён думае — чым ён можа ўзнагародзіць мінулыя гады? А асаблівa тыя месяцы, калі я адзінока пакутавала? — кажа мне Ганна. — Цяпер ён адзінокі. Не ўдалося яму жыццё, дык адазвалася ў ім бацькоўскае сэрца? Яго маці піша мне з Канады: „Ганулька, прабач яму, ідзі за яго замуж, у вас жа дзіця; прывязіце мне маю ўнучку. Я тут вам дом цудоўны паставіла, будзеце жыць шчасліва". Я ёй напісала: „Не!" Не купіць нас гэтым. Добра, што сустрэла я праўдзівых сяброў, добрых людзей, якіх магу назваць сваёй сям'ёй і веру ім больш, чым сабе...

— Валік, як гэта здарылася, што праз 8 гадоў адазваліся ў табе бацькоўскія пачуцці? — пытаю ў бацькі Агнешкі, які амаль кожны дзень выстойвае перад яе школай (добра ведае расписание ўрокаў), абсыпае дачку падарункамі. — Ці таму, што цяпер усе бачаць, што яна на цябе падобная, як дзве кроплі вады, а тады ты быў сапраўды няўпэўнены?..

— Я ведаў, што яна — мая. Але тады быў замалады, каб завязаць сабе жыццё. Спалохаўся, сказаў адзін сказ і ўцёк. Не думаў, што Ганка проста сабе пойдзе і кіне ўсё, што было наша. А пасля было запозна. Яна знікла, і ніхто мне не сказаў, дзе іх шукаць. І я пастараўся аб іх не думаць, не думаць аб нас. Былі іншыя дзяўчаты, іншыя справы... А цяпер хачу вярнуць усё да таго моманту, калі мы былі такія шчаслівыя... Ці гэта ўжо, можа, немагчыма?..

**Міра Лукша**

# ПАРНАСІК

*чытальніцкая літстаронка на незарантаваных пядзях*

### ДУМКА

Думка тужлівая, думка ціхая,
Пабяжы ў далёкі Беластоцкі Край,
Дзе мой анёл усміхаецца,
Там маё сэрца ёсць.

Там, дзе Белая плыве,
Сярод палёў і лугоў,
Там крыніца жывой вады
На беразе высокім б'е.

Там мінула мая маладосць,
Як кветкі на лугу.
Дзе гэта хатка, мохам аброслая,
Што мяне выхавала любіць сваё,
Дзе тая яблыня, што ў агародзе стаяла?

Хатка засталася, мы ўсе паехалі.
Крыніца засталася, а мы ўсе паехалі.
Яблыня высахла.
І слёзы мне засталіся.

**Андрэй Гаўрылюк**

# ШАНУЕМ СПАДЧЫНУ

(Працяг са стар. 3)

ўпрыгожыць, усвяточніць будзённае жыццё школы і дапамагчы ў арганізацыі школьных урачыстасцяў, як пачатак навучальнага года, заканчэнне яго ці традыцыйныя ў нас школьныя навагоднія ёлкі і калядаванне. Арганізоўваліся мастацкія калектывы. І чым вышэйшы быў культурны ўзровень асяроддзя, тым больш спелыя і на вышэйшым мастацкім узроўні былі гэтыя калектывы.

Беларускі мастацкі рух сярод дзяцей можа развівацца толькі ў асяроддзі, дзе культывуецца родная мова, дзе існуе яна ў школах прынамсі як прадмет і дзе знойдуцца адпаведныя спецыялісты. Практычна датычыць гэта толькі 53 школ на Беласточчыне, у якіх вучыцца беларускай мове каля 3,5 тысяч дзяцей. (Як падала на пачатку навучальнага года „Газэта Выборча", на 109 школ у Польшчы, дзе навучаецца мова нацыянальных меншасцяў, аж 53 школы — гэта школы з беларускай мовай (дарэчы, далёка не ва ўсіх беларускамоўных асяроддзях такія школы існуюць), а з 6118 дзяцей, якія вывучаюць сваю родную няпольскую мову, 3128 (больш паловы) — гэта беларусы).

У самім Беластоку ні ў адной школе беларуская мова не навучаецца. Таму і дзіцячы мастацкі рух беларусаў канцэнтруецца тут выключна пры Беларускім таварыстве. Існуе тут на сённяшні дзень дзіцячая група акардэаністаў і малады танцавальны гурток, а да конкурсаў беларускай песні рыхтуе дзяцей інструктар музыкі Сцяпан Копа.

Найбольшай школай у Польшчы, дзе навучаецца беларуская мова, з'яўляецца Падставовая школа № 3 у Бельску-Падляшскім. Тут вучыцца больш тысячы дзяцей, і практычна ўсе яны вывучаюць беларускую мову. І нядзіўна таму, што тут і найбольшыя, і найлепшыя мастацкія калектывы. Пад кіраўніцтвам настаўніцы музыкі Галіны Наумчук шмат гадоў працуе вялікі школьны хор (каля 60 чалавек). Гэты хор не раз упрыгожваў конкурсы беларускай песні для школьнікаў. Хор спявае і беларускія, і польскія песні, удзельнічае таксама і ў конкурсах, арганізаваных рознымі дзіцячымі ўстановамі ў Польшчы. І заўсёды з добрымі вынікамі.

Шмат гадоў пры гэтай школе існуюць дзіцячыя вакальна-інструментальныя калектывы. Па-рознаму яны называліся. Дзеці выраслі, адыходзілі. А іх нязменны арганізатар Сяргей Лукашук, дырэктар Бельскага дома культуры і кіраўнік вялікага і слаўнага ўжо на Беласточчыне і ў Беларусі народнага хору „Васілёчкі", вядзе ў гэтай школе ўрокі музыкі і спеву, і няма нічога дзіўнага ў тым, што, пачынаючы працу з новым класам, гэты вопытны настаўнік заўсёды вылавіць найбольш здольных дзяцей і ведае, як развіваць і выкарыстаць на сцэне новыя таленты. Апошняе яго дзецішча — інструментальна-вакальны калектыў „Жучкі" (існуе ўжо некалькі гадоў) і створаны ў мінулым годзе дзявочы калектыў „Крынічка". Адразу спадабаліся слухачам гэтыя калектывы, і адразу занялі яны вядучыя месцы ў нашым беларускім дзіцячым мастацкім руху.



*Сцэнка з п'есы Юркі Геніюша „Выváражыла" ў пастаноўцы школьнага тэатра з Орлі.*

Падобна выглядае справа і ў іншых школах, дзе ёсць настаўнікі музыкі.

Вялікі хор разам з інструментальнай групай вядзе шматгадовы настаўнік музыкі ў Старым Ляўкове Васіль Целушэцкі. Дзіцячая група ў стылі рок-гурту „Зарнякі" працуе ў школе ў Пашкоўшчыне пад кіраўніцтвам дырэктара школы Янкі Добаша. Беларускія харавыя і танцавальныя дзіцячыя калектывы існуюць ужо шмат гадоў у школах у Дашах, Кляшчэлях, Гайнаўцы, Орлі, Нарве, Кленіках, Махнатым, Чаромсе і іншых мясцовасцях.

Вялікую ролю ў навучанні беларускай мовы адыгрывае сцэнічнае беларускае слова. Многія настаўнікі-беларусісты трактуюць беларускія гурткі як інструмент у методыцы навучання роднай мовы. У многіх школах настаўнікі пачынаюць навучанне дзяцей ад пастаноўкі на ўроках беларускай мовы беларускіх народных казак. Вельмі часта такія пастаноўкі пераджаюцца ў школьны лялькавы тэатр, асабліва, калі ў класе трапіцца здольныя вучні. Такі тэатр да сёння існуе ў гайнаў-




*Танцавальны калектыў „Лянок" з Кляшчэляў.*

# Пра нашых пісалі...

У верасні 1990 года рэдакцыя газеты „Советская Белоруссия" правяла анкету-апытанне насельніцтва рэспублікі на тэму найчасцей чытаных беларускіх мастацкіх і мастацка-дакументальных кніг, якія выйшлі ў свет у 1989 годзе.

З аналіза атрыманых шматлікіх адказаў выявілася, што найбольш чыталі людзі з прозы Васіля Быкава — „Знак бяды", з паэзіі Янкі Купалы — „Паэмы", з драматургіі Андрэя Макаёнка — „Кінасцэнарыі".

Нашым чытачам, аднак, варта ведаць, што ў спіску папулярных у Беларусі ў мінулым 1989 г. 140 кніг знайшоўся таксама і паэтычны зборнік „Светлы міг" (упершыню!) беластачанкі, белавежца Яна Чыквіна. Віншуем аўтара!

# АЛЯКСАНДР МАКСІМЮК
# У цяні Ватыкану

## 4. СУСВЕТНЫ ЧЭМПІЯНАТ

Агульна вядома, што для тых, хто да шаленства любіць футбольныя змаганні, матч, у якім адна насупраць другой стаяць самыя лепшыя каманды свету, дастаўляе ўражанні непараўнальна мацнейшыя за тыя, якія можа ахвяраваць нават фільм пра бясстрашных амерыканскіх волатаў у В'етнаме. Велізарнай папулярнасці гэтага спорту спрыяе тое, што з'яўляецца ён гульнёю калектыўнай, простай у сваіх прынцыпах ды не пазбаўленай цалкам брутальнасці, якая ў вялікай меры прыдае рэальнасць цэлай барацьбе на пляцоўцы. Асабіста не належу да той групы людзей, якія пільна сочаць за вынікамі матчаў, падлічаюць пункты, здабытыя сваімі фаварытамі, а то і выдаткоўваюць грошы на футбольны таталізатар. Мая зацікаўленасць футболам ажыўляецца ў часе еўрапейскага або сусветнага чэмпіянату. Нейк так ужо склалася, што гадоў дзесяць заўзятарыў пры нагодзе гэтых мерапрыемстваў, камандзе ФРГ. Пасля расчараваннаяў у гадах 1982 і 1986, нарэшце, і мае ўлюбёнцы дабіліся найвышэйшага тытула ў футбольным свеце. Змаганні на футбольнай пляцоўцы тым больш мяне хвалявалі, што давялося мне правесці гэты час у краіне, якая была арганізатарам і гаспадаром сёлетніх гульняў. Каб усё было зразумелае, скажу яшчэ, што матчы глядзеў я не са стадыёна, а ў тэлебачанні. Калі я пацікавіўся білетамі, аказалася, што не так лёгка іх дастаць, асабліва, па намінальнай цане, але становяцца яны рэальнымі, калі, прыкладова, прадаць сваю машыну або нерухомую маёмасць... Ні першага, аднак, ні другога я не меў. Заставалася толькі тэлебачанне. Не было ў гэтым ніякае бяды — італьянскае тэлебачанне (тры дзяржаўныя станцыі) непасрэдна транслявала ўсе матчы. У першым перыядзе адбываліся тры або чатыры матчы ў адзін дзень. Трэба было мне ўсяго знайсці адпаведны кампраміс з айцом Тамушанскім, з якім я меў ласку жыць пад адным дахам, а які пачаткова заўзятарыў камандзе Злучаных Арабскіх Эміратаў, а калі яна закончыла свае выступленні, сімпатыя ягоная перайшла ў бок Англіі. На шчас-

скай школе № 2. Заахвочваннем да далейшай працы над мастацкім словам з'яўляюцца беларускія дэкламатарскія конкурсы, а таксама фестывалі школьных тэатраў. У беларускіх дэкламатарскіх конкурсах, арганізаваных рэгулярна Беларускім таварыствам разам з беластоцкай кураторыяй, удзельнічаюць сотні дзяцей. Найлепшыя з іх з'яўляюцца і артыстамі школьных тэатраў. Найлепшыя ў апошнія гады пастаноўкі паказалі лялькавыя і акцёрскія школьныя тэатры са школ у Бельску (беларуская школа № 3), у Гайнаўцы (школа № 2 і № 3), з Барысаўкі, Ласінкі, беларускі гурток з Гданьска, Пашкоўшчыны, Зуброў і іншыя. Школьныя гурткі і тэатры выступаюць са сваімі пастаноўкамі ў суседніх школах, а таксама нярэдка для дарослага гледача — у суседніх вёсках. Вельмі часта гэтыя выезды ў суседнія вёскі спалучаюцца са зборам этнаграфічных экспанатаў для школьнага этнаграфічнага кутка, а таксама для новага беларускага музея ў Гайнаўцы, які яшчэ будуецца.

Значна радзей у нашым асяроддзі сустракаемся з іншымі формамі мастацкай творчасці дзяцей. Але і яны існуюць.

Маляваць любяць усе дзеці. Дзіцячая старонка ў „Ніве“ рэгулярна друкуе малюнкі школьнікаў, але аб спецыяльнай працы з дзецьмі ў галіне жывапісу можна сказаць не так і многа. Нейкі час мастацкі гурток існаваў пры школе № 3. Дзеці з гэтага гуртка ўдзельнічалі ў агульнапольскіх конкурсах, займаючы вядучыя месцы. Цяпер аб гэтым гуртку нейк заціхла. Магчыма, змяніўся настаўнік. У вясковай школцы ў Трасцяніцы дырэктар школы Марыя Смактуновіч кожнай вясною арганізуе для дзяцей мастацкія пленеры — дзеці выязджаюць у маляўнічыя мясцовасці і робяць замалёўкі пейзажаў, архітэктурных помнікаў і інш. Малюнкі гэтага мастацкага гуртка бывалі ўжо на агульнапольскіх выстаўках, а галоўнае — упрыгожваюць залы і калідоры ўласнай школы.

І яшчэ аб адной галіне дзіцячай творчасці хочацца ўспомніць — аб дзіцячым рукадзеллі, аб народным мастацтве, якое школа прабуе перадаць па традыцыі маладому пакаленню. Рукадзелле на прыкладах народных вырабаў культывуецца ў многіх школах нашага рэгіёну. У бельскай „тройцы“, напрыклад, этнаграфічны гурток збірае па вёсках старыя вышываныя кашулі, блузкі і прабуе паўтарыць і развіць узоры з даўніх часоў. Дзеці з гэтай школы выткалі нават дыванік з партрэтам салістаў хору „Васілёчкі“. А вось школу ў Дубяжыне, дзякуючы выключна здольным дзяўчаткам і настаўніцы ручных работ, узяла пад сваю апеку беластоцкая „Цэпэлія“. Некалькі гадоў школа атрымлівала з „Цэпэліі“ матэрыялы, а затым і заказы на мастацкія народныя вырабы з гэтага рэгіёну. Нават маленькія кросенцы для ткання народных ручнікоў і пасцілак стаялі ў школе, каб дзеці вучыліся народнаму ткацтву. І таму ў гэтай школе ёсць мноства экспанатаў — прадметаў народнага ўмельства.


*Дзявочая вакальная група з Дашоў.*

Уся гэтая праца па мастацкаму выхаванню дзяцей і моладзі вядзецца выключна дзякуючы энтузіязму і творчаму бескарыслівому запалу настаўнікаў. Дзе ёсць такі энтузіяст, ды яшчэ ён атрымае падтрымку ў дырэктара школы, там і квітнее дзіцячая творчасць.


*Артысты з тэатра Падставовай школы № 3 у Бельску. Здымак зроблены ў час апошняга агляду школьных тэатраў.*

Апошні час у нашай краіне не спрыяе энтузіязму. Дарослыя заблыталіся ў розных жыццёвых, прафесійных і іншых клопатах. Застаецца толькі мець надзею, што адданыя сваім выхаванкам і беларускай справе настаўнікі і дзеячы не пакінуць малых на самапас, не перастануць арганізоўваць для іх конкурсы, канцэрты, не перастануць імі займацца. Маю ўпэўненасць, што сапраўдны выхаваўца, сябра дзяцей па прызванню, заўсёды застанецца тварам да вучня, да яго спраў і патрэб. Такімі якраз бачу я нашых настаўнікаў — актывістаў нашага беларускага асяроддзя.

**Яніна Чэрнякевіч**
**Фота аўтара**

---

це, гэтая маленькая супярэчлівасць нашых інтарэсаў не ўплывала на сужыццё. Калі можна выказацца пра сімпатыі іншых супрацоўнікаў Беларускай секцыі Ватыканскага радыё, дык Васіль Ногас быў, пэўна, заўзятарам зборнай Бразіліі, а Янка Мойсік — найвялікшы прыхільнік футболу, якога я дагэтуль сустрэў, глядзеў на змаганні, такое цяпер маю ўражанне, бесстаронна, з пазіцыі насалоды самым футбольным мастацтвам. З іншай пазіцыі сачыў за матчамі айцец Тамушанскі, які папросту заявіў, што, „калі прапушчу які-небудзь матч, дык заўтра не буду мець супольнае тэмы ў размове з прыяцелямі“, выказаўшы такім чынам сутнасць справы — уся Італія жыла сусветным чэмпіянатам. Гадзіны працы на прадпрыемствах былі дастасаваныя да распіскі матчаў. Футбол спіхнуў палітыку на далейшыя старонкі газет. Над Рымам лунаці зялёна-бел-чырвоныя сцягі. Усё грамадства чакала перамогі *nostri azzurri*.

Яшчэ да афіцыяльнага адкрыцця сусветнага чэмпіянату, над мерапрыемствам вісела пагроза. Спартыўныя аб'екты да апошняй хвіліны не былі падрыхтаваныя, за што з усіх бакоў ішла вострая крытыка. Работнікі, якія працавалі пры пабудове або абнаўленні аб'ектаў, пачалі баставаць, дамагаючыся большай заплаты. Закулісныя розыгрышы, інтрыгі, забастовачны шантаж, мафіёзі... Над чэмпіянатам павіс міжнародны скандал. Але гэта было толькі маё ўражанне, бо самі італьянцы былі цалкам спакойныя за лёс чэмпіянату, а на ўсе пытанні самаўпэўнена адказвалі: „Мы, італьянцы, умеем рабіць цуды“. І сапраўды, не ведаю, які *miracolo* стаўся, але кампраметацыя, якое можна было спадзявацца, не атрымалася. Сусветны чэмпіянат па футболу мог распачацца. Калі выступала зборная Італіі, мярцвелі вуліцы Рыма. За гульнёю сачылі ўсе ва ўсіх дыяпазонах узросту. Кожны поспех *gli azzurri* суправаджаўся нечым накшталт навагодняга святкавання. Усю ноч у паветры ўзрываліся каляровыя феерверкі ў акампанеменце какафоніі духавых інструментаў. Відовішча неверагоднае. Злавала яно трохі айца Тамушанскага, які не мог паўстрымацца, каб не заўважыць, што бачыў ужо маленькіх хлопчыкаў, якім іхнія каляровыя бомбачкі паабрывалі пальчыкі або яшчэ нешта.

Пераможны паход Італіі, як вядома, спынілі штрафныя ўдары аргенцінцаў. Ціша і смутак, якія ў той запамінальны дзень ахінулі Рым, куды больш неапісальныя за разгар святкаванняў, ацалелых нядаўна ад шчасця хлапчукоў і дзяўчат. А немцы, што ж, напярэдадні ўз'яднання, паказалі сябе не абы-якімі цвярдунамі — перамаглі пышных ангельцаў ды разбілі ўшчэнт безнадзейных, даруэы, аргенцінцаў.

Дыега Марадона, зорка якога так і не выратавала Аргенціну ад паражэння са зборнай ФРГ, вельмі рэлігійны. Аднойчы ўдзельнічаў ён у прыватнай аўдыенцыі Папы. Папа, як расказваў мне айцец Тамушанскі, звярнуўся да яго дастойна-ўрачыстым тонам: *„You are very famous young man“*, на што той, не задумоўваючыся, адказаў: *„Yes, Holy Father, I know it“*.

*(Працяг будзе)*

